Інфармацыйны бюлетэнь
БАРМІЦА
21 – 30 чэрвеня 2008 г.
бясплатна

# Хто сядзе ў дэпутацкае крэсла замест Васіля Храла?



Сапраўднай інтрыгай яшчэ да афіцыйнага абвяшчэньня даты парляманцкіх выбараў стала пытаньне аб тым, хто будзе кандыдатам ад улады у Глыбоцкай выбарчай акрузе. Калі кандыдатура Ярaслава Берніковіча не стала сэнсацыяй, бо ён даўна ўваходзіў у так званы сьпіс аб'яднаных дэмакратычных сілаў, то імя прэтэндэнта на дэпутацкае крэсла ад улады зьдзівіла шмат каго.

Як удалося высьветліць, кандыдатам, ці дакладней кандыдаткай, якая возьме ўдзел у выбарчай гонцы, будзе глыбачанка Людміла Чэбан. Прычым гэтую інфармацыю пацьвердзілі адразу дзьве крыніцы, якія вартыя даверу. Прэтэндэнтаў прадстаўляць уладу у якасьці кандыдата было некалькі - гэта усім вядомыя асобы, якія займаюць высокія пасады ў раённай вэртыкалі. Каб пазьбегнуць прэтэнзіяў, іх імёны мы называць ня будзем.

Паспрабуем адказаць на пытаньне, чаму была зацьверджана маладая, актыўная і надзвычай амбітная асоба? Першай прыступкай да своеасаблівага алімпу для Людмілы Чэбан было кіраўніцтва раённым аддзяленьнем БРСМу. Зь “Весьніка Глыбоччыны” стала вядома, што спадарыня Людміла ўжо сябра мясцовай праўладнай кампартыі. У гэтым годзе Людміла Чэбан стала дэпутатам раённага Савету. Да ўсяго гэтага зараз яна кіруе раённым аддзяленьнем арганізацыі-фантому “Белая Русь”. Зь мінулай выбарчай кампаніі ў “палатку” яна вызначылася тым, што задужа р'яна цкавала Ярaслава Берніковіча, публічна кляйміла і высоўвала розныя бакі яго асабістага жыцьця. Пад час прыездаў у Глыбокае Васіля Храла іх можна было часта пабачыць побач. Да таго ж жанчына ў парлямэнце - гэта выкананьне працэнтнай прысутнасьці “слабога полу”, якого патрабаваў кіраўнік дзяржавы.

Выбарчая кампанія абяцае быць цікавай. Два маладых чалавека, якія пазмагаюцца за дэпутацкае крэсла і заробак больш за тысячу даляраў у месяц на працягу чатырох год. Шкада, толькі, што вынік гэтай кампаніі ўжо можна прадбачыць, а таго, хто стане “кандыдатам ад улады” ўжо сеньня можна павіншаваць з дэпутацкай пасадай.



## Лідзія Ярмошына ўсё ведае наперад

Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына прагназуе высокую яўку выбаршчыкаў на парламенцкіх выбарах 2008 года. Пра гэта яна заявіла ў інтэрв'ю БелаПАН.

«Хто сказаў, што льготы аднезначна падтрымліваюцца і вітаюцца ўсім насельніцтвам? Паверце, тая частка насельніцтва, якая льготамі не карыстаецца, адмоўна ставілася да іх наяўнасці ў іншых грамадзян, — сказала кіраўнік ЦВК. — Апрача таго, многія грамадзяне льготамі і не карысталіся. Узяць супрацоўнікаў праваахоўных органаў: ім належаў ільготны праезд, але большая іх частка ездзіць на ўласных машынах і ўжо даўно не карыстаецца нічым бясплатным. Структура льготаў, якая была раней, ужо ўстарэла. Яе ў любым выпадку трэба было пераглядаць. Калі немалая частка студэнцтва ездзіць на лекцыі на ўласных машынах, аб ільготным праездзе на электрычках неяк і няёмка казаць».

Кіраўнік Цэнтрвыбаркама таксама паведаміла, што, згодна з праведзеным зімой апытаннем, прыйсці на парламенцкія выбары збіраліся 60% выбаршчыкаў, 25% рэспандэнтаў заявілі, што, «хутчэй за ўсё», прыйдуць.

«Такім чынам, 85% — гэта патэнцыял, які трэба не змяншаць, а працаваць над яго павелічэннем», — заявіла Л.Ярмошына.

# Владимир Парфенович: «Сейчас в Беларуси парламента нет»

На днях Александр Лукашенко сделал заявление, которым сильно удивил бывших депутатов «палаты представителей». «Парламент - это высший законодательный орган власти, туда надо придти и писать законы», - сказал белорусский правитель, рассуждая о будущем составе «палатки».

- Ни один законопроект «парламентом» не подготовлен, - заявил в интервью «Белорусскому партизану» трехкратный олимпийский чемпион, депутат «палаты представителей» 2-го созыва Владимир Парфенович. - В Овальном зале обсуждаются только те законопроекты, которые разрабатываются в Центре законопроектной деятельности при Администрации президента. Все законопроекты попадают в Овальный зал оттуда. Ни один проект закона «депутатом» не был написан.

В свое время я подготовил законопроект по усилению борьбы с наркоманией и наркобизнесом. Но потратил год на то, чтобы его согласовать! При таком отношении никто просто не хочет этим заниматься. А если откровенно, то многие просто не хотят лезть на рожон: их вполне устраивает зарплата, место работы.

Поэтому «депутаты» в парламенте не пишут законы. Лукашенко сказал неправду. Они их только рассматривают и одобряют. Выходит, Лукашенко не знает, чем сегодня занимаются «депутаты». Или судит по тем временам, когда в Беларуси еще был Верховный Совет и где работали настоящие депутаты. А сейчас



в Беларуси «парламента» нет - у нас «палатой представителей» руководит Администрация президента, -- отметил Владимир Парфенович.

Напомним, что осенью 2008 года в Беларуси планируется проведение парламентских «выборов». С 1996 года все выборы и референдумы в Беларуси были признаны международными организациями несвободными и недемократическими.

*charter97.org*

# Пяткевіч дала адказ ТБМ

Прапановы грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) аб пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў школах адпраўлены ў Міністэрства адукацыі. Пра гэта гаворыцца ў афіцыйным адказе намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталлі Пяткевіч на зварот кіраўніцтва ТБМ.

10 чэрвеня кіраўніцтва ТБМ звярнулася ў Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі з лістом, у якім прапаноўвалася ўключыць у дэкрэт прэзідэнта, прысвечаны змяненням у сярэдняй адукацыі краіны, наступныя пункты: аб выкладанні ва ўсіх школах, незалежна ад мовы навучання, прадметаў «гісторыя» і «геаграфія Беларусі» на дзяржаўнай беларускай мове; аб павелічэнні на 30% колькасці навучальных гадзін па прадметах «беларуская мова» і «беларуская літаратура» ў 9-11 класах школ з рускай мовай навучання; аб абавязковым выпускным экзамене па беларускай мове і літаратуры ў 11 класе.

Свае прапановы кіраўніцтва ТБМ матывавала тым, што згодна з рашэннем ЮНЕСКА 2008 год абвешчаны Міжнародным годам моў ва ўсіх краінах свету.

У афіцыйным адказе Н.Пяткевіч зазначае, што прапановы ТБМ аб выкладанні некаторых дысцыплін у сярэдняй школе «не з'яўляюцца прадметам рэгулявання» дэкрэта прэзідэнта «Аб асобных пытаннях агульняй сярэдняй адукацыі» і таму «не могуць быць улічаны ў працы над праектам дадзенага нарматыўнага прававога акта». Зварот ТБМ скіраваны ў Міністэрства адукацыі, «у кампетэнцыю якога ўваходзіць вырашэнне такіх пытанняў», гаворыцца ў лісце намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

«Мы спадзяемся, што з дапамогай Адміністрацыі прэзідэнта і сп. Наталлі Пяткевіч Міністэрства адукацыі ўважліва разгледзіць нашы прапановы і рэалізуе іх з 1 верасня ў межах рэформы школы і карэннага перагляду ўсіх праграм і падручнікаў», — сказаў у інтэрв'ю БелаПАН старшыня ТБМ Алег Трусаў.

БелаПАН



# Беларусь патрапіла ў сьпіс нестабільных дзяржаў

Паводле дасьледчыкаў, недзеяздольная дзяржава – гэта дзяржава, якой пагражае сур'ёзны крызыс. Чыньнікі недзеяздольнасьці – страта фізычнага кантролю над сваёй тэрыторыяй і дзяржаўнай манаполіі на ўжываньне сілы, няздольнасьць уладаў забясьпечыць нармальнае функцыянаваньне грамадзтва, а таксама няздольнасьць узаемадзейнічаць зь іншымі краінамі як паўнацэнны член міжнароднай супольнасьці. Гэта не азначае, што дзяржава ўжо абрынулася, што яе няма, але гэта – паказчык яе крохкасьці, датклівасьць да любога сур'ёзнага ўнутранага шоку, паведамляе “Радыё Свабода”.

Экспэрты двух амэрыканскіх дасьледных цэнтраў прааналізавалі сытуацыю ў 177 краінах сьвету паводле 12 індыкатараў. 60 краінаў, якія замыкаюць сьпіс – якраз тыя, якія паводле аўтараў дакладу можна ахарактарызаваць як недзеяздольныя.

Пачынаюць сьпіс афрыканскія краіны Самалі, Судан і Зімбабвэ. У Самалі працягваецца шматгадовая грамадзянская вайна з удзелам арміі суседняй Этыёпіі, толькі летась і толькі сталіцу Магадыша пакінулі 700 тысяч уцекачоў. Судан вядомы ва ўсім сьвеце сапраўдным генацыдам, які адбываецца ў правінцыі Дарфур. У Зімбабвэ акрамя жахлівых парушэньняў правоў чалавека і нахабных фальсыфікацый выбараў - інфляцыя 150 000(!) працэнтаў за год.

Таксама вельмі нізка экспэрты ацэньваюць іракцую дзяржаву. Зразумела, не ва ўсіх дзяржавах, што патрапілі ў шасьцідзясятку найгоршых, сытуацыя такая, як у Самалі ці Судане, скажам, на 58-м месцы апынуўся Ізраіль з прычыны няздольнасьці інтэграваць арабскую меншасьць і глыбокага расколу эліты.

Пераважную большасьць краінаў недзеяздольнай шасьцідзясяткі складаюць краіны Афрыкі (і амаль усе краіны гэтага кантынэнту ў гэты “чорны” сьпіс трапляюць). З постсавецкіх краінаў у сьпісе – дзяржавы Цэнтральнай Азіі Узбэкістан (26), Таджыкістан (38), Кіргістан (39), Туркмэністан (46) , Малдова (49), Грузія (56) і Беларусь – 53-е месца.

Паводле якіх паказчыкаў Беларусь патрапіла ў сьпіс недзеяздольных дзяржаваў? Найбольш кепскія адзнакі краіна атрымала паводле паказчыкаў нелегітымнасьць улады, правы чалавека і раскол у элітах. Таксама ня надта высока былі ацэненыя стан эканомікі, дэмаграфічная сытуацыя і характар зьнешніх уплываў. Варта адзначыць, што за апошні год Беларусь адсунулася на два радкі далей ад небясьпечнай вяршыні сьпісу - летась у аналягічным рэйтынгу яна была 51-ай.

Ня ўсе недзеяздольныя краіны характарызуюцца адкрытымі забурэньнямі і канфліктамі, іх можа і ня быць, справа ў патэнцыяле нестабільнасьці, у рызыцы, што нечаканы штуршок можа раптам абрынуць усю дзяржаўную канструкцыю. На думку аўтараў дакладу шмат для якіх недзеяздольных дзяржаў такім штуршком можа стаць цяперашні харчовы крызыс.

svaboda.org



# Генпрокуратура отказалась проверять информацию о продаже оружия террористам



Лидер Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько получил ответ из Генпрокуратуры, куда он обратился с предложением провести расследование по факту продажи колумбийским террористам группировки "Революционные вооруженные силы Колумбии" (FARC) белорусского оружия.

«Поскольку информация распространена источниками, достоверность и объективность которых вызывает сомнение, оснований для проведения по данному факту проверки и принятия мер прокурорского реагирования не имеется», — цитирует ответ сайт ucpb.org.

В ответе Генпрокуратуры политику сообщили «о рассмотрении его обращения по поводу «публикации в зарубежных СМИ, а также в сети Интернет сведений, касающихся Республики Беларусь».

Причина подобного поведения в том, полагает Анатолий Лебедько, что сведения, распространенные в зарубежных СМИ, касались не Республики Беларусь, как считают в Генпрокуратуре, а "конкретных лиц, о которых прокуратура то ли стыдливо, то ли заботливо умалчивает".

Напомним, информация о продаже белорусского оружия колумбийской группировке "Революционные вооруженные силы Колумбии" (FARC), признанной международным сообществом террористической организацией, была распространена влиятельной испанской газетой «Эль Паис» и телеканалом «Евроньюс» со ссылкой на экспертов Интерпола.

По утверждению «Эль-Паис», госсекретарь Совета безопасности Беларуси Виктор Шейман «был одним из тех, кто продвигал контракты на поставку оружия в Венесуэлу на сумму в 720 млн. евро, которые были подписаны в прошлом году».

Попытка представить газету «Эль Паис» как бульварное издание, а телеканал «Евроньюс» как распространителя слухов — это демонстрация невежества, считает Анатолий Лебедько. Данный случай, по его мнению, лишь подтверждает необходимость и актуальность гражданского и общественного контроля над властью.

«Без этого победить произвол властей, коррупцию и ложь невозможно, — подчеркнул оппозиционный политик. — Пока у граждан не будет возможности воздействовать на ту же прокуратуру, ни одно громкое дело, будь то похищение оппонентов власти или продажа оружия террористам, не будет расследовано».

Анатолия Лебедько после его обращения вызвали в Генпрокуратуру, где он был предупрежден об уголовной ответственности «за заведомо ложный донос» в связи с его требованием расследовать достоверность информации о поставках белорусского оружия в Венесуэлу.

charter97.org



# БАЖ пратэстуе супраць новага закона «Аб СМІ»

БГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» выказвае пратэст у сувязі з прыняццем новага закона «Аб сродках масавай інфармацыі» ў другім чытанні Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Свабода слова з’яўляецца не толькі найважнейшым грамадзянскім і палітычным правам, але і крытэрам выканання іншых правоў чалавека. Лічым недапушчальным такі паспешлівы разгляд і хуткае прыняцце прававога акту, які закранае гэтае базавае права, замацаванае ў двух артыкулах беларускай Канстытуцыі (арт.арт. 33,34).

Упэўненыя, што такія законы павінныя прымацца пасля ўсебаковага разгляду, абмеркавання з усімі зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі, пасля правядзення іх грамадскага абмеркавання і міжнароднай экспертызы.

Звяртаем увагу, што беларускія ўлады абяцалі накіраваць законапраект аб СМІ на экспертызу ў Парламенцкую Асамблею Рады Еўропы, аднак не выканалі сваіх абяцанняў.

Паспешлівасць у прыняцці закона сведчыць пра яго рэпрэсіўна-абмежавальную скіраванасць. Змест прававога акту гэта пацвярджае.

Закон, у прыватнасці:

- прадугледжвае рэгістрацыю інтэрнэт-выданняў і кантроль за Інтэрнетам з боку Міністэрства інфармацыі і пракуратуры;
- патрабуе перарэгістрацыі ўсіх медыяў пасля ўступлення закона ў сілу;
- значна пашырае магчымасці закрыцця ўладамі СМІ;
- ускладняе дзейнасць і павялічвае ціск на незалежных журналістаў і карэспандэнтаў замежных медыяў.

Нагадваем дэпутатам Палаты прадстаўнікоў аб адказнасці за рашэнні, якія яны прымаюць, і заклікаем Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу адхіліць закон «Аб СМІ» і накіраваць яго на дапрацоўку.

Заклікаем беларускую і міжнародную грамадскасць выказаць сваё стаўленне да гэтага нарматыўнага акту, які замахваецца на права грамадзян атрымліваць і распаўсюджваць аб’ектыўную інфармацыю і выказваць уласнае меркаванне.

# У гарманіста спытаюць ліцэнзію

Аб гэтым на прэс-канферэнцыі 30 чэрвеня ў Мінску паведаміла начальнік юрыдычнага аддзела Міністэрства культуры Алена Вештарт, каментуючы ўказ прэзідэнта Беларусі ад 13 мая № 259 «Аб арганізацыі гастрольна-канцэртнай дзейнасці».

Паводле яе слоў, указам зменена паняцце гастрольна-канцэртнай дзейнасці: цяпер да яе адносіцца не толькі канцэртная дзейнасць, што прыносіць даход, але і дабрачынныя выступленні. Каб наладзіць канцэрт, арганізацыя павінна падаць заяўку на яго правядзенне ў аддзел культуры мясцовай адміністрацыі, атрымаць гастрольнае пасведчанне і аплаціць дзяржпошліну, дзе прадугледжана пэўная сістэма льготаў.

А.Вештарт паведаміла, што дзеянне ўказа распаўсюджваецца на вяселлі або выпускныя вечары, куды запрашаюцца музычныя калектывы пры ўмове, калі канцэрт арганізуецца юрыдычнай (рэстаранам або школай), а не фізічнай асобай.

Паводле яе слоў, заяўка на правядзенне канцэрта павінна быць разгледжана на працягу пяці дзён пасля яе падачы. Пры ўпраўленні культуры гарадскіх і абласных выканкамаў павінны быць створаны экспертныя камісіі, якія «пры неабходнасці ажыццяўляюць прагляд і праслухоўванне канцэртных праграм і даюць рэкамендацыі па выдачы гастрольных пасведчанняў».

За правядзенне канцэртаў без гастрольнага пасведчання прадугледжана адміністрацыйная адказнасць: для індывідуальнага прадпрымальніка штраф ад 20 да 200 базавых велічынь, для юрыдычнай асобы — да 500 базавых велічынь з канфіскацыяй



даходу, атрыманага ад незаконнай дзейнасці.

Указ набыў сілу 1 чэрвеня 2008 года. Як раней паведамляла прэс-служба прэзідэнта, «дакумент прыняты ў мэтах абароны правоў спажыўцоў паслуг культуры шляхам упарадкавання ўсёй сферы гастрольна-канцэртнай работы, недапушчэння правядзення культурна-відовішчных мерапрыемстваў нізкага мастацкага ўзроўню або якія ўяўляюць пагрозу маралі, грамадскаму парадку, правам і свабодам грамадзян».

# Фільм пра Курапаты атрымаў Гран-пры фэстывалю «Magnificat 2008»

Дакумэнтальны фільм беларускага кінарэжысэра Міхаіла Ждано ўскага «Ва ўсе дні» атрымаў Гран-пры IV міжнароднага каталіцкага фэстывалю хрысьціянскіх фільмаў і тэлепраграмаў «Магніфікат-2008», які прайшоў 17—21 чэрвеня ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласьці.

Як паведаміў БелаПАН старшыня фэстывалю, кінарэжысэр Юры Гарулёў, фільм М.Ждано ўскага разьвівае тэму, распачатую рэжысэрам у 1990-я гады стужкай «Дарога на Курапаты» (аўтар сцэнару - А.Лукашук, апэратар - С.Пятроўскі).

Дакумэнтальны фільм «Ва ўсе дні», створаны на кінастудыі «Беларусьфільм», прысьвечаны мастаку-іканапісцу Анатолю Кузняцову, які на працягу многіх гадоў піша абразы на камянях у народным нэкропалі Курапаты на паўночна-ўсходняй ўскраіне Менску, дзе ляжаць дзясяткі тысяч ахвяраў сталінскіх рэпрэсій 1930—1940-х гадоў.

На фэстывалі было прадстаўлена 35 фільмаў і тэлепраграм зь Беларусі, Грузіі, Італіі, Канады, Латвіі, Лівана, Літвы, Польшчы, Расіі, ЗША, Украіны, Францыі, Харватыі





і Швайцарыі.

Заснавальнікамі творчай акцыі, якая праводзіцца пад патранажам Канфэрэнцыі каталіцкіх япіскапаў у Беларусі, зьяўляюцца каталіцкая асацыяцыя для камунікацый «SIGNIS-Беларусь», незалежная студыя «Стопкадр», рэдакцыя рэлігійна-асьветніцкага часопісу «Дыялёг» (Баранавічы), а таксама Віцебская дыяцэзія Беларускай рымска-каталіцкай царквы. Фэстываль праводзіцца пры ўдзеле Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэту.

# Сколько стоит высшее образование?

**Самое дорогое**

Самым дорогим вузом Беларуси можно, как не удивительно, назвать Белорусский государственный медицинский университет за год обучения в котором, студентам (или их родителям) придется выложить Br4000000-4500000. Самой же «дорогой» специальностью этого вуза является «стоматология» - Br5400000 в год. Кстати, высокая стоимость обучения (Br3900000-4000000) характерна для всех медицинских вузов Беларуси.

Не сильно отстает от «медуниверситета» и Белорусская государственная академия музыки, год обучения в которой обойдется в Br4000000.

Но это вузы профильные, а среди остальных безусловным лидером является БГУ, в котором год обучения на многих специальностях факультета международных отношений, экономического и юридического факультетов «потянет» почти на Br3800000.

**Самое дешевое**

Дешевле всего получать высшее образование в Витебской государственной академии ветеринарной медицины (специальность «зоотехника») - Br1483400. Среди столичных вузов, наименее «дорогим» является Минский государственный лингвистический университет. Вне зависимости от выбранной специальности, обучение в этом вузе обойдется в Br1624000.

Если говорить о «заочке», то ее стоимость обычно составляет половину стоимости дневной формы обучения.

**В среднем**

В наиболее востребованных белорусских вузах за год обучения на дневном отделении нужно будет выложить около Br2300000-2900000. Соответственно, за пять лет обучения студент-платник отдаст любимому вузу Br11500000-14500000. Правда стоит отметить, что стоимость обучения на 1-4 курсах в большинстве вузов на 150000-250000 больше, чем на 5 курсе, так как, по сути, пятикурсники учатся всего один семестр, а затем уходят на преддипломную практику.

«Интерфакс»

# Фэст на Яна ў Мосары вачыма абываценя

Адмыслова ехаць на сьвята Яна ў Мосар я асабіста не зьбіраўся. Знаёмыя, якія прыехалі на сьвята зь Менску на сваім аўто, папрасілі паказаць дарогу. Што ж, у Мосар прыязджаць заўсёды прыемна. Але на гэты раз вяртаўся расчараваны. Мо адна з прычын – дрэннае надвор’е: амаль увесь вечар ішоў дождж. Пра іншыя расчараваньні і пытаньні распавяду больш падрабязна.

Пачалося сьвята з імшы ў касьцёле Сьвятой Ганны. У сваёй прамове ксёндз Юозас Булька распавёў, што 24 чэрвеня Мосар наведае біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін, а таксама адбудзецца адкрыццё музэю пчалярства. Пасля імшы сьвятары і вернікі ўрачыстым шэсьцем з запаленымі факеламі рушылі да купальскага вогнішча. Дарэчы, мо хто з чытачоў патлумачыць мне, абывацелю, як стасуецца малебен перад запальваньнем купальскага вогнішча (прынамсі ў мяне яно асацыюецца з паганскімі традыцыямі) з хрысьціянскімі догмамі. Пасьля запальваньня вогнішча пачаўся канцэрт мастацкай самадзейнасьці – шэры, правінцыйны, цікавы толькі тым, каму за сорак. Так, артысты, большасць з каторых прадстаўлялі гарадскі дом культуры, вельмі шчыра і старанна выступалі. Але складвалася ўражаньне, што гэта ўсё недзе я ўжо бачыў. Вакол пляцоўкі з выступоўцамі трымалася некалькі дзесяткаў зацікаўленых гледачоў, астатнія проста блукалі навокал. Дарэчы, набыць штосьці тут нельга. Каторы год запар гандлёвыя намёты ставяць недзе ў кіламетры ад эпіцэнтру сьвята. Прычына відавочная – каб было меньш сьмецьця. Пасьля канцэрту пачалася дыскатэка. Калі гэта можна было назваьц дыскатэкай. Канешне, нехта спрабаваў пусьціцца ў пляс, а сёстры-законьніцы на некалькі хвілін зарганізавалі з малых дзетак карагод вакол купальскага вогнішча (напэўна, паганства ніколі ня зьнікне з нашых традыцый). Моладзь, якая стаяла побач альбо іранічна ўсьміхалася, альбо проста сумавала. Што ім яшчэ было рабіць, калі з моцных дынамікаў гучалі гіты савецкай папсы кшталту : “Ты меня любила, а потом забыла”. Крыху пацешыў паказ мультфільма, зарганізаваны тут жа, на пляцоўцы. Мультфільм быў на беларускай мове.



Мае знаёмыя зь Менску хацелі застацца і прыехаць на сьвята ў наступны дзень. Але, пабачыўшы тое, што адбывалася, зьехалі дадому. Так, заўзятары сьвята тлумачылі, што ў мінулыя гады і людзей было больш і артысты былі запрошаныя здалёк. Але сьвята 21 чэрвеня з майго, абывацельскага погляду, атрымалася сумным.

# Каханне сапраўднае і ілжывае

Кожнаму чалавеку ўласціва ахвота не замыкацца на самым сабе, шукаць і знаходзіць нешта агульнае з іншымі людзьмі. Душа пачынае нудзець, калі побач няма таго, з кім можна было б падзяліцца чымсьці таямнічым. Тым не менш, цяжка знайсці чалавека, які зразумеў бы цябе ва ўсім да глыбіні душы, захоўваў бы ўсе твае таямніцы і сам нічога ад цябе не хаваў. Таму кожны чалавек жадае мець сябра. І не проста сябра.

Хто скажа, адкуль бярэцца гэта дзіўнае пачуцце, якое раптам ахоплівае душу, паражае сэрца, прымушае па-адмысловаму, не так, як звычайна, глядзець на чалавека процілеглага пола? Гэта здараецца з кожным. Мы ўсё рана альбо позна ўлюбляемся. Такая створаная Богам прырода чалавека - у яе ўкладзена сіла кахання, якая заахвочвае імкнуцца адзін да аднаго ў пошуку глыбіннай еднасці як душой, так і целам.

**Сапраўднае каханне - не запал!**

Паспяшаўшыся вызначыць сваю шлюбную долю, колькі людзей расчароўваліся ў сваім выбары, раптам выявіўшы адсутнасць у жонцы сапраўднай прыгажосці. Вельмі небяспечна давяраць гарачаму, пылкаму пачуццю адзін да аднаго. Пылкае каханне, узбуджанае прыгажосцю цялеснай і знешнімі манерамі, падобна бенгальскаму агню, які вабіць погляд яркімі іскрамі, але хутка згасае, пакідаючы затым адзін дым.

**Сапраўднае каханне накіраванае да душы.**

Яна ўся - у найглыбейшым разуменні душ адзін аднаго і, значыць, ва ўзаемнай вернасці, у поўным прыняцці смуткаў і радасцяў каханага, як сваіх асабістых. Сапраўднае каханне ёсць цалкам аб'ектыўнае адчуванне, што ўсё, што ёсць у гэтым чалавеку, - сапраўды «тваё», вельмі роднае і блізкае твайму сэрцу. Блізкасць - не ў разгарачэнні цела, а ва ўзаемнай сардэчнай цеплыні, у нязменным саграванні душ адзін аднаго. З дапамогай гэтай цеплыні, бачанне душы іншага, прыгожым з'яўляецца і яго цела, але...

**Сапраўднаму каханню чужое грубіянства.**

Яно благагавее перад цаламудрыем каханага, бачыць у ім святыню і захоўвае яе, не дазваляючы сабе растляваць чысціню каханага. Хто сапраўды кахае, той нават у думках не дапусціць плацкога запалу з іншым. Самалюбівы шукае задавальненні толькі сваіх нізкіх пачуццяў. Ён прагне насыціць упадабаным чалавекам злачынны запал, але, як толькі насыціцца, імгненна халадзее і адхінаецца ад яго.



**Сапраўднае каханне ёсць ахвярнасць!**

Каханне стварае з двух адну волю, натхняючы кожнага аддаваць сваё дзеля іншага. Ахвяраваць сабой- не значыць ушчамляць сябе, таму што ў тых, хто кахае, ахвярнасць добраахвотная. Блізкія маці дзецям, блізкія сябры адзін аднаму, але блізкасць умілаваных нашмат глыбей: яны - адна душа, іх смутак і радасці ўзаемныя. '

**Сапраўднае каханне ёсць спакойнае, роўнае, ціхае пачуцце.**

Яно мірнае і нясе мір. Чалавек не раўнуе, не вартуе бесперастанку «каханага», баючыся магчымых сапернікаў і звяртаючы на іх увесь гнеў. Сапраўднае каханне вернае і верыць. Яно не скоўвае каханага, не забараняе мець зносіны з кім-небудзь, таму што сапраўднае каханне вольнае, яно кахае добраахвотна, прагне сустрэчнага добраахвотнага кахання і верыць у шчырасць каханага.

**Не рабі сабе куміра**

Калі разбураюцца ўяўленні аб іншым чалавеку, створаныя па капрызу сваёй збэшчанай прыроды, тады акажацца, што каханы ў рэчаіснасці якраз адлюстроўвае ўсе ідэалы, адпавядае ўсёй таямнічай ахвоце.Рэчаіснасць вышэй выдумкі, чысцей, лепш за мары. І ўбачыць ідэал магчыма толькі пры чысціні свайго ўласнага сэрца.

**Палюбі чалавека такім, які ён ёсць насамрэч!**

Прымі і зразумей яго. Калі чалавека кахаюць за нешта, гэта не дасканалае каханне. Сапраўднае каханне прымае чалавека такім, які ён ёсць у сапраўднасці, нягледзячы на яго заслугі і вартасці, нягледзячы на яго недахопы. Каханне несумеснае з гонарам, таму што чыстае, шчырае каханне прымае блізкага, якім бы ён ні быў. А ілжывае каханне - самалюбства - задаволеная толькі тым, хто ўблажае яго, хто ліслівы і падлізваецца.

Шлях да сапраўднага кахання пралягае праз унутраную працу над самім сабой, праз выкараненне грахоўнага запалу, які ўсе зводзіць да задавальнення пачуццяў.

Чыйго сэрца дакранулася каханне, той не можа быць замкнёны. Сэрца таго, хто любіць, баліць аб сябры, і гэты боль растопіць холад, натхніць на цалкам новае ў жыцці. Каханне абнаўляе і вучыць чалавека жыць, таму што сапраўднае жыццё - не дзеля сябе, а дзеля іншага.

Каханне адчыняе нам значэнне нашага блізкага, яго найвялікшую вартасць і важнасць для нас!

Юлія Януковіч, westki.info

Адрас для допісаў:
211800 Глыбокае, а/с №2
e-mail: barmica@tut.by
http://www.belarda.org
Наклад: 299 паасобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі грамадскіх арганізацый, якія спрычыніліся ды выдання бюлетэня.
Пад час укладання захоўваецца мова і правапіс арыгіналу.
Надрукавана на абсталяванні сяброў